Выходзіць з 20 снежня 1945 года

газета
# Настаўніцкая

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 36(5367)
Субота, 23 сакавіка 2002 года

Супрацоўніцтва

## Грандыёзны праект, ці Дыплом новай якасці

***Праект Campus Europea, напэўна, адзначыць новы этап у інтэграцыі нацыянальных адукацыйных сістэм. Яго ідэя - забяспечыць акадэмічную мабільнасць у межах пэўнага кола еўрапейскіх універсітэтаў і стварыць адзіны дыплом узору Campus Europea, што будзе датычыцца такіх ступеней вышэйшай школы, як бакалаўрыят і магістратура. Даволі нечакана, што ўдзел у праекце бярэ адна з айчынных ВНУ - Еўрапейскі гуманітарны універсітэт.***

З 1999 года ў межах так званага Балонскага працэсу таксама пачала рэалізоўвацца ідэя стварэння адзінай еўрапейскай прасторы вышэйшай школы. Беларусь у лік 29 дзяржаў, што падпісалі Балонскую дэкларацыю, не ўваходзіць.

Рэктар ЕГУ, доктар філасофскіх навук, прафесар, акадэмік Нацыянальнай Акадэміі навук Анатоль Арсеньевіч Міхайлаў назваў гэты праект амбіцыёзным. І нездарма. Прэтэндэнтаў на ўдзел у ім шмат, але можа быць не больш пятнаццаці. Ініцыіраваны ў 1999 годзе доктарам Конрадам Шылі (адным са знакамітых рэфарматараў германскай сістэмы вышэйшай адукацыі), ствараецца кансорцыум універсітэтаў, да якога далучыліся ВНУ з Беларусі, Ірландыі, Люксембурга, Бельгіі, Іспаніі, Партугаліі, Італіі, Германіі, Аўстрыі, Латвіі і інш. Большасць з іх ужо сёння паспяхова ўзаемадзейнічаюць. Іх супрацоўніцтва накіравана на тое, каб забяспечыць у межах кансорцыума належны ўзровень дыплома. Проста прэстыжу і аўтарытэту тут будзе недастаткова – партнёрства патрабуе вялізнай долі ўзаемнай адказнасці за якасць навучання.

Праект Campus Europea прадугледжвае мабільнасць (і студэнтаў, і выкладчыкаў), якая ў межах кансорцыума павінна быць стопрацэнтнай. Да студэнтаў, напрыклад, будзе прад'яўляцца патрабаванне правесці не менш як два семестры ў адным–двух замежных універсітэтах і валодаць на прафесійным узроўні па меншай меры дзвюма мовамі (апрача роднай). Вось умоўная схема мабільнасці: малады чалавек пачынае навучанне ў Мінску, працягвае, да прыкладу, у Рызе, а заканчвае, скажам, у Мадрыдзе ці вяртаецца ў родны універсітэт. Яшчэ пакуль не вызначана, якія схемы мабільнасці будуць прымальныя для ЕГУ, аднак вядома, што яны будуць рэалізоўвацца з улікам не толькі аплаты за навучанне, але і кошту пражывання на тэрыторыі іншых краін. І, натуральна, будуць узяты ў разлік аспекты прававога рэгулявання студэнцкай міграцыі. Пры гэтым поўная сіметрычнасць (калі 20 беларускіх студэнтаў–"эканамістаў" абменьваюцца на 20 замежных) неабавязковая. Тут дапускаюцца разнастайныя падыходы, але пэўны баланс, вядома, будзе захоўвацца. Калі з боку ЕГУ накіравана на вучобу, скажам, 300 студэнтаў, а нашым універсітэтам зацікавіліся толькі 200 – у такім выпадку свабодныя 100 месцаў можна ўключыць у рэгіянальныя абмены з ВНУ краін бліжняга замежжа.

Для моладзі з краін СНД, увогуле ўсяго былога Савецкага Саюза, Еўрапейскі гуманітарны універсітэт сапраўды можа стаць вельмі прывабным. Удзел у праекце Campus Europea надае яму статус унікальнай для гэтага рэгіёна ўстановы, таму што ён будзе прапаноўваць дыплом еўрапейскага ўзору і адукацыйныя паслугі, высокі узровень якіх будзе гарантавацца не толькі прэстыжам самога універсітэта, але і яго партнёраў па кансорцыуму. Да таго моманту, калі пачне рэалізоўвацца праект (прыкладна 2004 год), Еўрапейскі гуманітарны універсітэт павінен уключыцца ў сумесную міжуніверсітэцкую дзейнасць па ўзгадненні і гарманізацыі вучэбных планаў і праграм, удасканаленні інстытутаў бакалаўрыята і магістратуры. Да якасці праграм усіх універсітэтаў будуць прад'яўляцца аднолькавыя патрабаванні. Толькі гэта дазволіць гаварыць менавіта пра адзіны дыплом узору Campus Europea і не сумнявацца ў яго паўнавартаснасці. Цяпер ужо дзейнічае група камунікатараў, якія даводзяць да ведама замежных партнёраў схемы рашэнняў нашага боку і інфармуюць кіраўніцтва і супрацоўнікаў ЕГУ аб патрабаваннях і чаканнях з боку партнёраў.

Яшчэ адна цяжкасць – мова. Разлічваць на тое, што па абменах будуць прыязджаць студэнты, якія на прафесійным узроўні валодалі б рускай ( а тым больш беларускай) мовай, – не прыходзіцца, гэта малаверагодна. Таму вучэбныя праграмы будуць рыхтавацца пераважна на англійскай мове. Студэнтам ЕГУ ў гэтых адносінах прасцей, яны вывучаюць па дзве замежныя мовы (на любым факультэце). Хоць ужо цяпер ва універсітэце шэраг спецыяльных дысцыплін выкладаецца на замежных мовах, пакуль ЕГУ не ў стане забяспечыць выкладанне на англійскай мове ўсіх без выключэння прадметаў.

– Трэба прызнацца самім сабе, што Беларусь знаходзіцца не ў гушчы падзей еўрапейскай інтэграцыі, і аб'ектыўна мы не з'яўляемся асабліва прывабнымі па многіх прычынах, у тым ліку і з–за спаду цікавасці да рускай мовы, – лічыць А.А.Міхайлаў. – Пра нашу краіну мала дзе ведаюць. І нам давядзецца не толькі гарманізаваць вучэбныя праграмы, але на іх фоне прапаноўваць нешта сваё, самабытнае, каб адстойваць месца роўнага партнёра ў кансорцыуме. Нам прыйдзецца, у нейкім сэнсе, стварыць свой імідж, прадставіць Беларусь з выгаднага, цікавага боку і вызначыць, што мы маглі б прапанаваць замежным студэнтам, каб стаць для іх прывабнымі на фоне іншых універсітэтаў.

Новая мадэль падрыхтоўкі спецыялістаў, якую прадугледжвае праект Campus Europea, цалкам адпавядае патрабаванням міжнацыянальнага рынку. Па сутнасці, ён – частка працэсу глабалізацыі, водгук на тое, што адбываецца ў свеце. Узнікае пытанне: якой будзе ўдзельная вага нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў гэтым праекце? Яно цікавіць сёння ўсіх, хто асцерагаецца, што беларуская культура не вытрымае канкурэнцыі пры супастаўленні з французскай, нямецкай ці нават рускай – па прычыне сваёй малавядомасці. У гэтай сувязі ў ЕГУ плануецца ўключыць у вучэбныя праграмы шэраг міждысцыплінарных спецкурсаў, прысвечаных нацыянальнай спецыфіцы нашай краіны, яе палітыка–культурным асаблівасцям.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

Канферэнцыі

## Расцём здаровымі!

***Навукова-метадычная канферэнцыя на тэму здаровага ладу жыцця прайшла нядаўна ў Гарадзейскай сярэдняй школе №2. Арганізаваная ў рамках плана вучэбна-навукова-вытворчага аб'яднання "Факультэт народнай культуры БДПУ імя М.Танка - сярэдняя школа №2 г.п.Гарадзея Нясвіжскага раёна", яна сабрала ўсіх настаўнікаў фізічнай культуры раёна.***

– Праблема фізічнага выхавання моладзі актуальная не толькі сёння – яна была важнай ужо ўчора, а заўтра будзе яшчэ больш важнай, – сказаў на канферэнцыі дырэктар школы Уладзімір Курачэўскі. – Рэфармаванне сістэмы фізічнага выхавання ў агульнаадукацыйнай сярэдняй школе разам з арганізацыяй штодзённых заняткаў па фізічнай культуры і спорту прадугледжвае авалоданне ўсімі вучнямі мінімумам ведаў у галіне гігіены і медыцыны. Кожны школьнік павінен ведаць свой арганізм і ўмець падтрымліваць яго ў парадку.

Фізічная культура як частка агульнай культуры з'яўляецца комплексным паняццем, і адных толькі фізічных практыкаванняў недастаткова для выхавання ў дзяцей разумення сутнасці і заканамернасцей сапраўднай фізічнай культуры, патрэбнасці ў фізічным удасканаленні. Неабходна і пэўнае веданне асноў фізіялогіі, біялогіі, гігіены, медыцыны, уключаючы ўзаемадзеянне чалавека з прыродай. Не ўзброіўшы вучняў адпаведнымі ведамі, немагчыма вырашаць задачы фізічнай адукацыі. Менавіта на аснове ведаў дасягаецца свядомае, трывалае авалодванне пэўнымі рухальнымі ўменнямі і навыкамі, што, у сваю чаргу, фарміруе ўстойлівую цікавасць, матыў і патрэбнасць у актыўных занятках фізічнай культурай і спортам. І наадварот, неўсвядомленае выкананне практыкаванняў – адна з асноўных прычын, якія не дазваляюць зрабіць фізічную культуру спадарожнікам жыцця, выпрацаваць звычку да штодзённай рухальнай дзейнасці.

Яшчэ ў канцы XIX стагоддзя выдатны вучоны ў галіне фізічнага выхавання П.Ф.Лесгафт абгрунтаваў неабходнасць глыбокага, асэнсаванага навучання рухальным дзеяннем. На жаль, у сённяшняй практыцы школ навучанне нярэдка адбываецца па прынцыпу бяздумнага выканання фізічных практыкаванняў, без глыбокага пранікнення ў фізіялагічны механізм уздзеяння тых або іншых практыкаванняў, што прыводзіць да зніжэння эфектыўнасці работы тэхнікі рухаў і спартыўных вынікаў увогуле.

Сёння пытанне эфектыўнасці ўрока фізічнай культуры з'яўляецца актуальным. Калі ўрок выклікае ў вучняў цікавасць і задавальненне ад выкананай работы і мае інструктыўную накіраванасць (дамашнія заданні, зняцце тэставых паказчыкаў, рэкамендацыі індывідуальных фізічных практыкаванняў і відаў спорту), ён становіцца асноўным фактарам выхавання ўстойлівай звычкі займацца фізічнай культурай і спортам. Гэта значыць, урок будзе толькі тады асноўнай формай фізічнага выхавання, калі ён будзе грунтавацца на дыдактычных прынцыпах і адкрые шлях да заняткаў фізічнай культурай у пазакласны час.

Усе гэтыя думкі прагучалі ў выступленнях удзельнікаў канферэнцыі. Пра эфектыўныя шляхі рэфармавання фізічнага выхавання гаварылі, маючы як прыклад перш–наперш вынікі работы сярэдняй школы №2 Гарадзеі ў рамках канцэпцыі паляпшэння выхаваўча-адукацыйнага працэсу з выкарыстаннем усіх сродкаў фізічнага выхавання і поўнага пераходу школы на прынцыпы здаровага ладу жыцця.

Удзельнікі канферэнцыі не маглі абысці ўвагай і стан спраў у спорце вышэйшых дасягненняў, тым больш што якраз нядаўна скончыліся Алімпійскія гульні ў Солт–Лэйк-Сіці. Была выказана заклапочанасць і трывога за вынікі выступлення беларускіх спартсменаў. Многія школы Нясвіжскага раёна ў мінулым рыхтавалі прызёраў і чэмпіёнаў па зімовых відах спорту – біятлону і лыжных гонках. Пра гэта з горыччу гаварыў М.Палішчук з Горычаўскай сярэдняй школы, які падрыхтаваў не аднаго майстра спорту па біятлону: "Дайце нам крыху фінансавання і якасны інвентар – і гэта будзе на парадак танней, чым пакупка спартсменаў з–за мяжы". У якасці доказу прыводзіўся прыклад выхавання алімпійскага чэмпіёна па лёгкай атлетыцы Рамуальда Кліма, які родам з Нясвіжскага раёна і ў тых мясцінах пачаў свой слаўны спартыўны шлях.

Сёння не прыслухоўвацца да слоў спецыялістаў па фізічнай культуры і спорту з глыбінак краіны – неразумна. Бо гэтыя ж спецыялісты непасрэдна працуюць са школьнікамі, ведаюць іх прыроду і псіхалогію і на поўны голас заяўляюць: "Не перавяліся ў нас таленты ў спорце. Дапамажыце толькі ў методыцы, навуковай тэорыі, у тэхналогіях – і тады нам не будзе сорамна за выступленне нашых спартсменаў на спаборніцтвах вышэйшага рангу".

**Віктар САКАЛОЎ,**
**старшыня навукова-метадычнага савета па фізічнай культуры і спорту Міністэрства адукацыі**

Салісткі дзіцячага танцавальнага калектыву "Дружба", які паспяхова працуе пры гомельскім Палацы чыгуначнікаў, Таня Калашнік, Юля Лукашэвіч і Таня Бакуновіч задаволены, што перабраліся нарэшце ў абноўлены будынак палаца. Тут пасля рамонту створаны ідэальныя ўмовы для заняткаў усіх самадзейных калектываў.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**

Акцыі

## Пасёлак Лясны - праз церні да зорак...

Фразу з песні "...памятаю ўсіх настаўнікаў да аднаго!" без аніякіх ваганняў можна аднесці да майго субяседніка Івана Іванавіча Додзя. Ужо шмат гадоў пасля атрымання атэстата сталасці, калі няма магчымасці ў дзень сустрэчы выпускнікоў пабываць на сваёй малой радзіме ў Клецкім раёне, ён тэлефануе ў школу, каб у чарговы раз выказаць сваю ўдзячнасць настаўнікам, якія далі яму пуцёўку ў жыццё. З гадамі мы пачынаем лепш усведамляць ролю таго або іншага чалавека ў сваім лёсе, таму можна зразумець асаблівую любоў, пачуццё павагі і ўдзячнасці І.І.Додзя да ўжо, на жаль, нябожчыка, настаўніка працоўнага навучання Івана Іванавіча Жданко. Гэты чалавек на сваіх уроках рыхтаваў школьнікаў да дарослага жыцця, вучыў сумленна рабіць сваю справу і не забываць пра адказнасць за свае ўчынкі. Ён тактоўна пераконваў вучняў, што мала авалодаць прафесіяй, трэба імкнуцца ісці далей і ўдасканальваць сябе, і не толькі як спецыяліста. Дзякуючы свайму настаўніку Ваня Додзь (у іх аднолькавыя нават імёны па бацьку) захапіўся спецыяльнасцю электрыка. Настаўнік ганарыўся сваім вучнем. Цяпер жа мой візаві – дырэктар Бараўлянскага вытворчага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Адказнасць на ім ляжыць вялікая, але мая размова закранае школьныя праблемы.

**- Іван Іванавіч, пасёлак Лясны - вялікі бальнічны гарадок рэспубліканскага значэння. Калісьці мне давялося напісаць некалькі артыкулаў, дзякуючы якім сюды з чыгуначнага вакзала стаў хадзіць аўтобус-экспрэс. Гэта дало магчымасць для паездкі без перасадкі тым, хто шукаў выратавання ад хваробы. А вось пытанне з дарожна-асфальтавым пакрыццём на гэтай тэрыторыі можна вырашыць і не выносячы праблему на газетныя палосы. Згодны?**

– Вядома. Мы ўсё робім, каб гогалеўскія словы пра дурняў і дарогі не мелі да нас дачынення, але недахоп тэхнікі, грошай, людзей уплывае на нашую дзейнасць.

**- Разумею. Але калі пытанне з машынамі не вырашаецца, то, можа, варта звярнуцца да дырэкцыі мясцовых школ за дазволам падключыць да працы па добраўпарадкаванню і ўборцы пасёлка старшакласнікаў?**

– У нас ужо была размова з кіраўніком Бараўлянскай сярэдняй школы №2 В.Г.Маркіным на гэтую тэму, і, напэўна, усё ў хуткім часе вырашыцца станоўча. А калі так, то ў пасёлку будзе чыста. У зімовы перыяд жыхары будуць хадзіць па расчышчаных дарожках, застанецца ў мінулым такая з'ява як галалёд. Аўтамабільныя дарогі таксама будуць прыведзены ў належны стан і не будуць зліваецца з тратуарам.

**- Паэт сказаў: "Кожную працу блаславі, удача". Як заахвочваецца праца дзяцей і дарослых - толькі словамі падзякі або людзі зацікаўлены і матэрыяльна?**

– Аплата ў нас гарантавана. Мы лічым, што несправядліва, калі нехта траціць свой час, здароўе, нервы, выконваючы пэўную работу, і не атрымлівае прыстойнай аплаты за яе. Ні лекаў, ні пуцёвак, ні харчавання нам бясплатна ніхто не дае. З часам жа, як ні круці, за ўсё трэба плаціць, так што лепш рабіць разлікі своечасова.

**-Зазначу, што чалавек, які добрасумленна выконвае сваю справу (а падлеткі асабліва, бо яны ўжо пачынаюць усведамляць сваё месца ў жыцці), робіць гэта не на паказ.**

– Не спрачаюся. Таму мы збіраемся заключаць дагаворы з тымі, хто ў нас працуе, на ўзаемавыгадных умовах.

**- Працатэрапія - гэта адзіная магчымасць стасункаў з дзецьмі?**

– Хаця час сёння нестабільны, мы не забываем пра арганізацыю вольнага часу школьнікаў. Ужо не адзін год, як створаны і працуюць гурткі "Папялушка" (вязанне, шыццё, макрамэ), студыя выяўленчага мастацтва "Вясёлка", гурток фларыстыкі, спартыўныя секцыі. Летась мы замест аднаго выдаткаванага нам мільёна са сродкаў прадпрыемства патрацілі чатыры – нельга эканоміць на будучыні.

Нашу дзейнасць ацаніў Мінскі райвыканкам у асобе намесніка старшыні І.І.Зіновіча. Нам прапанавана фінансавая дапамога ў закупцы спортінвентару. Я ўспрымаю гэта як узнагароду нашым спартсменам за першае месца ў спаборніцтвах па лыжах.

**- Магу толькі канстатаваць, што сёння, калі крызіс маралі прывёў да безнагляднасці - гэта шчодры і своечасовы дар. Віктар Гюго сказаў, што "трэба падтрымліваць сілу цела, каб захаваць сілу духу". Супрацоўніцтва домакіраўніцтва, якое вы ўзначальваеце, са школамі пацвярджае гэтую мудрасць і з'яўляецца добрым прыкладам для пераймання.**

**Ларыса ВЛАДЫКА-РЫХЦІКАВА.**

Конкурсы

## Кіраўнік гуртка - асоба таленавітая

***Усе настаўнікі і выхавальнікі ведаюць: толькі за тым з іх пойдуць (павераць, давераць свае праблемы), хто на роўных з дзецьмі вядзе размовы і ладзіць свае ўзаеміны. У гэтым плане кіраўнікі гурткоў у школах, дамах дзіцячай творчасці павінны проста па максімуме адпавядаць падобным патрабаванням.***

А каб мець такія якасці, трэба, па вялікім рахунку, нарадзіцца з талентам чалавека няўрымслівай душы і сэрца. Навучыцца гэтаму нельга, а вось удасканаліць сваё майстэрства, параўноўваючы сябе са сваімі калегамі, – гэта заўсёды віталася ў настаўніцкім асяроддзі.

Менавіта гэтак можна ўспрыняць і Слаўгарадскі раённы творчы конкурс "Лепшы кіраўнік гуртка–2002 года", які праходзіў на базе Дома дзіцячай творчасці. Яго вынікі ацэньвала кампетэнтнае журы, у склад якога ўвайшлі спецыялісты аддзела адукацыі, базавай установы. Узначаліў журы загадчык аддзела адукацыі В.А.Новікаў.

Чатыры канкурсанты спаборнічалі за права называцца лепшым. Праўда, геаграфія на гэты конт была звужана да Дома дзіцячай творчасці і сярэдняй школы № 2 Слаўгарада, але ж ад гэтага конкурс не згубіў сваёй прыцягальнасці. Назаву тых педагогаў, хто выйшаў на "арэну спаборніцтва", і падкрэслю, што кожны з іх, нягледзячы на канчатковыя вынікі, варты называцца лепшым (рызыкі і хваляванні ім было не пазбегнуць, а вось займелі ад таго ямала, найперш – перамогі над уласнымі эмоцыямі, што дадало нямала ўпэўненасці ў сваіх сілах).

У конкурсе ўдзельнічалі Т.Я.Аляксеенка, А.В.Кавалёў, С.А.Лукашэнка і А.П.Аўчыннікава. Першыя тры канкурсанты абаранялі гонар Дома дзіцячай творчасці.

Наколькі ўпартай была барацьба, сведчаць этапы гэтага спаборніцтва, якіх на шляху да фінішу было аж шэсць. Кожны з іх патрабаваў творчасці, індывідуальнага падыходу, эрудыцыі і абавязкова асабістай абаяльнасці. Варта толькі назваць іх – "Метадычны вернісаж"; "Маё педагагічнае крэда"; "Мінізаняткі гуртка"; "Педагагічная сітуацыя"; "Эрудыты, наперад" і "Падарожжа ў краіну педагагічных тэрмінаў" – і спецыялісты адразу ацэняць выпрабаванні, праз якія прайшлі ўдзельнікі конкурсу.

Нялёгка было працаваць журы, бо складана быць аб'ектыўным пры ацэнцы майстэрства. І ўсё ж пераможца быў названы. Ім стала Тамара Яўгенаўна Аляксеенка, настаўніца сярэдняй школы № 2. Яна ўзнагароджана дыпломам аддзела адукацыі і памятным сувенірам. Усе ўдзельнікі і кіраўнікі навучальных устаноў, дзе працуюць канкурсанты, таксама былі заахвочаны кіраўніцтвам аддзела адукацыі.

**Валянціна УЛАДЗІМІРАВА.**

Весткі

## Ствараецца індустрыя школьнага харчавання

***Сярод раёнаў Гродзеншчыны арганізацыяй харчавання школьнікаў каторы год вызначаецца Навагрудскі. Менавіта заўчора гэта паслужыла падставай правядзення тут, у Навагрудку, абласнога семінара.***

Умоўна ён складаўся з дзвюх частак. У першай удзельнікі семінара мелі магчымасць атрымаць змястоўную інфармацыю аб практыцы арганізацыі школьнага сталавання ў раёне ад намесніка старшыні райвыканкама Уладзіміра Груца і начальніка ўпраўлення адукацыі Алы Буйвал.

У прыватнасці, Ала Пятроўна паведаміла, што справа набывае рысы, скажам так, развіцця менавіта індустрыі школьнага харчавання. Як паказала практыка, гэта здымае шэраг дробных пытанняў і дазваляе пазбаўляцца розных непрадказальных накладак.

Другая частка семінара тычылася непасрэднай практыкі, арганізацыі важнай справы ў школах раёна.

Так, дырэктар сярэдняй школы № 7 райцэнтра Надзея Мікалаеўна Скобля павяла гаворку пра ўзаемадзеянне ўпраўлення адукацыі, педкалектыву навучальнай установы, камбіната школьнага харчавання, санітарнай службы і бацькаўскай грамадскасці пры арганізацыі харчавання вучняў у шматкомплекснай школе.

Шмат павучальнага і карыснага знайшлі для сябе ўдзельнікі і ў выступе дырэктара камбіната школьнага харчавання Валянціны Бондар.

Іх паведамленні былі дапоўнены, праілюстраваны наведаннем сталоўкі, харчблока навучальнай установы.

Падчас семінара быў зладжаны міні–практыкум, у якім прыняў актыўны удзел галоўны спецыяліст упраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Арабенка. Практыкум тычыўся як тэхналогіі праверак харчблока, так і непасрэдна арганізацыі сталавання.

Была звернута ўвага на нетрадыцыйную форму арганізацыі харчавання вучняў ў малакамлектнай сельскай школе.

Удзел у рабоце семінара прыняла намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама Вера Грышэчка.

**Уладзімір НОВІК.**

## Сустрэча пакаленняў

***На пачатку сакавіка ў сярэдняй школе №36 Віцебска адбыўся выязны пленум гарадскога савета ветэранаў сумесна з гарадскім камітэтам БПСМ і аддзела адукацыі Першамайскага раёна Віцебска на тэму "Аб узмацненні работы ветэранскіх арганізацый па патрыятычным і маральным выхаванні моладзі". Больш як шэсцьдзесят ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, прадстаўнікі адміністрацый трох раёнаў горада, намеснікі дырэктараў і сацыяльныя педагогі школ раёна, выхавальнікі ЖЭУ, маладзёжныя лідэры прынялі ў ім удзел.***

Падлеткі з цікавасцю агледзелі народны музей, што дзейнічае ў школе. А літаратурна–музычная кампазіцыя ў выкананні піянераў у многіх ветэранаў выклікала нават слёзы. Гледачам прыйшлося даспадобы выступленне духавога аркестра, агітбрыгад, а таксама заключны канцэрт старшакласнікаў.

На пленуме разглядаліся актуальныя пытанні ўзаемадзеяння гарадскога камітэта БПСМ з ветэранамі, воінскай часці №5524 – з раённым аддзелам адукацыі ў пытаннях патрыятычнага выхавання школьнікаў. З вайскоўцамі Першамайскі РАА супрацоўнічае даўно і плённа: на базе часці пастаянна працуе лагер адпачынку для цяжкіх падлеткаў, сталі традыцыйнымі экскурсіі школьнікаў і канцэрты для шэфаў.

Сустрэчы пакаленняў ветэраны лічаць перспектыўным напрамкам у выхаванні дзяцей і моладзі. Такія сустрэчы дзейнічаюць лепш за любую агітацыю, дазваляюць на свае вочы пабачыць "гісторыю" Айчыны, павышаюць патрыятычны дух у грамадстве.

**Святлана ЛАВЕЙКІНА.**

## Памяці земляка

***У 1980 годзе ў небе над Афганістанам гераічна загінуў лейтэнант Уладзімір Шапяцюк, ураджэнец Кобрыншчыны. Атрымаўшы гэтую балючую вестку, піянерыя Кобрынскага раёна рашыла ўвекавечыць памяць свайго земляка з вёскі Лелікава.***

Доўга збіралі металалом. З яго і быў зроблены аўтобус, які ўпрыгожыў надпіс – "Уладзімір Шапяцюк". Доўгія гады аўтобус працаваў на маршруце, які праходзіў праз вёску героя Афгана. За дзесяць гадоў ён выпрацаваў свой рэсурс і стаў няспраўным.

Ды памяць пра героя на Кобрыншчыне захоўваецца. Нядаўна ў дзень памяці воінаў–інтэрнацыяналістаў аўтобус з тым жа надпісам зноў выйшаў на маршрут. А экіпаж ранейшы – гэта Аляксандр Шапяцюк і Васіль Трубчык, якія родам з Лелікава.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ.**

Выставы

## Сістэма "дзіцячы сад - школа": вопыт лепшых

***20 сакавіка ў Мінскім гарадскім інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі адкрылася гарадская педагагічная выстава.***

***Тэма выставы - "Вопыт арганізацыі цэласнага адукацыйнага працэсу ў сістэме дзіцячы сад - школа ва ўмовах рэфармавання".***

Менавіта ў дзіцячым садзе робіць першыя крокі ў адукацыйны свет большасць маленькіх грамадзян нашай краіны. І адна з самых актуальных праблем, якая хвалюе ўсіх, – гэта праблема пераемнасці дзіцячага сада і школы. Калі яна будзе – кожнае дзіця, незалежна ад узроўню яго развіцця, базы ведаў і ўменняў, зможа ўвайсці ў школьнае жыццё лёгка і ўпэўнена. А ўдалы старт дасць больш шанцаў для паспяховай вучобы і надалей. Таму такой актуальнай уяўляецца праблематыка матэрыялаў, размешчаных на выставе. Прысвечаны яны як пытанням забеспячэння пераемнасці дашкольнай і пачатковай адукацыі, так і рэалізацыі пераемнасці пачатковай і базавай школ, якія цяпер рэфармуюцца. На выставе таксама прадстаўлены вопыт рэалізацыі бесперапыннай адукацыі ў сістэме "дзіцячы сад – школа" на старэйшай ступені навучання і лепшыя напрацоўкі, што тычацца кіраўніцкай дзейнасці па арганізацыі цэласнага адукацыйнага працэсу ў гэтай сістэме.

Выстава будзе доўжыцца да мая.

**Святлана СУБОЦІНА.**

